# Ніва

## БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК




№ 11 (629) ГОД XIII 17 САКАВІКА 1968 г. ЦАНА 60 гр.

## БГКТ

### 50 ГОД САВЕЦКАЙ АРМІІ

50-ая гадавіна Савецкай Арміі вельмі ўрачыста адзначалася ў Гайнаўцы ўсімі арганізацыямі. Сярод іх вялікі ўклад унесла Беларускае таварыства. 24 лютага ў 12 гадзін дня адбылося складанне вянкоў на магілах савецкіх воінаў, загінуўшых падчас вызвалення Гайнаўкі. Прадстаўнікі 31 арганізацыі, установ і прадпрыемстваў неслі вянкі. На перадзе з прадстаўнікамі Савецкай Арміі неслі вянок члены праўлення аддзела БГКТ.

Пасля гэтага адбылося ўрачыстае пасяджэнне ў беларускім ліцэі, прысвечанае слаўнаму юбілею. Даклад чытаў з нагоды гэтай гадавіны вучань ліцэя.

Затым выступілі: прадстаўнік Савецкай Арміі і сакратар ГП БГКТ Уладзімір Юзвюк. Было таксама накіравана шмат пытанняў да прадстаўнікоў Савецкай Арміі, на якія яны адказвалі. Многа жывых кветак, а найбольш ружаў было прыпаднесена савецкім афіцэрам.

У ліцэі была таксама вельмі багатая мастацкая частка пад кіраўніцтвам настаўніцы Ніны Вішнеўскай. Усе нумары дэкламатарска-музычнага мантажа былі выкананы на высокім ўзроўні.

Савецкія афіцэры выказалі жаданне наведаць Якуба Мартынюка — матроса Аўроры і павіншаваць яго з 50-ай гадавінай Савецкай Арміі. У Новае Беразова разам з прадстаўнікамі Савецкай Арміі ездзілі: сакратар ГП Уладзімір Юзвюк і старшыня Гайнаўскага аддзела БГКТ Аляксандр Іванюк. Вечарам у перапоўненым насельніцтвам Доме культуры «Ляснік» адбылася павятовая акадэмія прысвечаная юбілейнай даце. З дакладам выступілі прадстаўнік Войска Польскага і прадстаўнік Савецкай Арміі. У мастацкай частцы бралі ўдзел: эстрада Дома культуры «Ляснік», духавы аркестр і самадзейнікі беларускага ліцэя. Потым у Доме настаўніка адбылася сяброўская сустрэча і танцавальная вечарына.

### У ГАРАДКУ

Аддзел Беларускага таварыства ў Гарадку адзначыў 50-ую гадавіну Савецкай Арміі супольна з усімі мясцовымі арганізацыямі.

20-га лютага адбылося спатканне з афіцэрам Савецкай Арміі.

* ✲ *

2-га сакавіка ў Гарадку адзначалася 22-ая гадавіна існавання ОРМО і Міжнароднае свята жанчын. Ва ўрачыстасці ўзяў удзел намеснік старшыні прэзідыума ВРН Эдмунд Шчэпаньскі і сакратар Прэзідыума ПРН у Беластоку тав. Бэднарэк. Пасля акадэміі ў мастацкай частцы выступіў харавы калектыў Гарадоцкага аддзела БГКТ пад кіраўніцтвам настаўніка Міколы Копы.

### У БЕЛАСТОКУ

2-га сакавіка гарадскі аддзел БГКТ у Беластоку арганізаваў вечарыну для свайго актыву.

### У БЕЛЬСКУ

Харавы калектыў Бельскага аддзела БГКТ 2-га сакавіка меў цікавую сяброўскую вечарыну.

### ГУРТОК З КОЖЫНА

Гурток БГКТ у Кожыне, што на Бельшчыне, пад кіраўніцтвам настаўніцы Лідзіі Сцепанюк падрыхтаваў п'есу Янкі Купалы «Прымакі» і выступаў з ёю ў сваёй і суседніх вёсках.

### ГАЙНАЎСКАЯ ЭСТРАДА

Эстрада павятовага аддзела БГКТ у Гайнаўцы пад мастацкім кіраўніцтвам Віталіса Макаца 2-га сакавіка дала канцэрт у Дубічах Царкоўных. (мх)




Няма хіба ў Польшчы аніводнага вялікага горада, у якім бы не пражывалі беларусы, выхадцы з вёсак і асад Гайнаўскага, Бельскага, Сямяціцкага, Беластоцкага, Сакольскага і Дуброўскага паветаў. Гэта таксама і ў горадзе т.зв. «Труймесце» — гэта значыць Гдыні, Сопаце і Гданьску. Выхадцаў з беларускіх асяроддзяў Беласточчыны можна спаткаць тут у вышэйшых навуковых установах, у тэхнікумах, суднаверфі, фабрыках, прадпрыемствах і ўстановах. У Гданьску шмат беларускай моладзі, нямала таксама старэйшага пакалення, якому за народнай улады прышлося жыць і працаваць.

А вось некаторыя нашыя сябры, аб якіх скажам па некалькі сказаў.

Мікола Сівіцкі жыве ў Гданьску ўжо 6 год. Спецыяльнасць яго — тэхнік. Працуе ў суднаверфі. Паходзіць з Грэбянёў, Дуброўскага павета.

Таксама з Дуброўскага павета, з вёскі Ячна, выводзіцца Галіна Марцінчык, якая закончыла ў Гданьску вышэйшую школу і працуе інжынерам у суднаверфі.

Оля Сапешка, Міхась Куптэль, Ніна Лобач працуюць ужо даўно ў Гданьску настаўнікамі, а Ірына Пугацэвіч і Ірына Краська — медсёстрамі. Усе яны з Гайнаўшчыны.

Мікола Такаюк з Бельшчыны, Янка Філіпік з Сакольшчыны, Уладзімір Вішэнка з Сямяціцкага павета маюць прафесію столяра і працуюць у Гданьску па некалькі год.

Уладзімір Марцінчык, Вольга Зданоўская, Зіна Сахарчук, Ірэна Пахвіцэвіч, Мікола Томчык і шмат іншых з'яўляюцца студэнтамі вышэйшых школ Гданьска. Гэта таксама моладзь з беларускіх вёсак Беласточчыны.

У Гданьску даўно ўжо існуюць Рускае і Украінскае культурна-асветныя таварыствы. Многія нашыя беларусы былі членамі гэтых таварыстваў, бралі ўдзел у розных мерапрыемствах, увахо-

(Працяг на стар.3)




Ларыса Геніюш

### З У Б Р Ы

Непрыгожыя, барадатыя,
з нетраў пушчы ідуць зубры,
на плячах — вехі-грывы кудлатыя
і цяжкія нясуць гарбы.

То палягуць, то зноў паднімуцца,
растрывожыўшы трэскам глуш,
ногі моцныя аж пружыняцца
пад цяжарам магутных туш.

Сваёй пушчаю крочаць, стройныя,
цёмна-бурыя, як дымы,
неабласканыя, неасвоеныя,
першабытныя так, як мы.

Без хлусні, без лісінага нораву,
ў цеснай дружбе — свая сям'я,
вытрывалыя, непакорныя, —
да такіх належыць зямля!

Ўсе прыходзілі, ўсе іх нішчылі, —
ад чужынца дабра не пачуць,
а яны грамадой недалічанай
страпянуцца і зноў жывуць.

Адна пушча-зямля нам маткаю,
мора жытняе без граніц,
мы адною жывём чалядкаю,
з адных сілу бяром крыніц.

Ўсё гляджу на сям'ю зубрыную.
З вадапою ў гушчар брыдуць.
І здаецца, цяжкай хвілінаю
будзем жыць, бо яны жывуць.

Калі пушча цвіце пралескамі,
плешча сонца вясной з гары, —
беларускія, белавежскія,
з новай сілай равуць зубры.

(Са зборніка «Невадам з Нёмана», які ў гэтым годзе выпусціла выдавецтва «Беларусь»).

▼ Удзельнікі вечарыны.



# АБ ВСІнж. НЕ ЎСЁ

Каб шырэй пазнаёміць чытача з адной з найважнейшых навучальных установаў на Беласточчыне, прадстаўнік нашай рэдакцыі наведаў кіраўнікоў **Вышэйшай інжынерскай школы** рэктара **дра інж. Уладзіміра Хомчыка** і прарэктара **дра Яўгенія Нічыпаровіча,** з якімі правёў гутарку на тэму сённяшняга і будучага беластоцкай ВСІнж. Пастараемся хаця ў скарачэнні перадаць змест размовы.

**Ніва: Як выглядае колькасна справа выпускнікоў ВСІнж?**

Адказ: Да гэтага акадэміцкага года ВСІнж. выпусціла 572 абсальвенты. Паколькі былі гэта студэнты вечаровага студыум. не вельмі гэта адчувалася ў нашай гаспадарцы. Першыя інжынеры дзённага **студыум** выйдуць у **гэтым годзе.** Зараз налічваецца 1500 студэнтаў, з чаго 700 — гэта студэнты дзённага студыум. ВСІнж. зараз мае тры факультэты: механічны, электрычны і сухапутнага будаўніцтва.

**Ніва: Паасобныя факультэты напэўна маюць спецыяльнасці. Як гэта маецца, напрыклад, у выпадку механічнага факультэта?**

Адказ: Зараз маем дзве спецыяльнасці: тэхналогія пабудовы машын і машыны і сельскагаспадарчыя прылады. Хацелася б асабліва падкрэсліць гэтую апошнюю спецыяльнасць, якая мае агромнае значэнне ва ўмовах Беластоцкага ваяводства. Спецыялізацыя такая створана дзякуючы нашай уласнай ініцыятыве і, што моцна трэба падкрэсліць, дзякуючы вялікай дапамозе і зацікаўленню нашых мясцовых улад. Паняцце гэтай спецыялізацыі трактуем вельмі шырока. Наш выпускнік — інжынер будзе працаваць непасрэдна ў цэнтрах рамонтаў і эксплуатацыі трактараў, сельскагаспадарчых машын, прылад і ўсялякай вясковай механізацыі. Зрэшты, спецыялізацыя — машын і сельскагаспадарчыя прылады хіба не зусім адэкватна да нашых планаў і намераў, таму што маем тут на думцы **механізацыю, якая ёсць зараз і якая будзе на вёсцы**. Гэта будзе патрабаваць стварання навуковых работ непасрэдна прыдатных у прадукцыі.

**Ніва: У сувязі з так шырокім аб'ёмам і разнастайнасцю гэтай спецыялізацыі, ці не прадбачваецца стварэння асобнага факультэта?**

Адказ: Так. Планы развіцця нашай ВСІнж. прадбачваюць такую патрэбу. Зрэшты, патрэба паклікання новых спецыяльнасцей, толькі ў другім плане, існуе і на іншых нашых факультэтах.

**Ніва: Дыдактычная і навуковая дзейнасць, якую праводзіць ВСІнж., патрабуе шырокіх кантактаў з прадпрыемствамі і з іншымі навуковымі ўстановамі. Як гэта выглядае практычна?**

Адказ: Супрацоўніцтва можна сказаць шырокае. Сельскагаспадарчы «рэсарт» вельмі нам дапамагае. Актуальна ВСІнж. павязана з ІІГР у Ігнатках і Юхноўцу а таксама ёсць лабараторыя ў ПОМ у Беласточку. Незадоўга ВСІнж. атрымае аўтобус, каб завозіць сюды студэнтаў. Цеснае супрацоўніцтва існуе ў нас з Інстытутам электратэхнікі ў Мендзылессі, якога філіял паўстае ў Беластоку. Супрацоўнічаем з фабрыкамі: у Чорнай Беластоцкай, ФПіУ у Беластоку і многімі іншымі.

(Працяг на стар. 5)

# Падзеі • Здарэнні • Факты • Каментарыі • Весткі

## СВЕТ

### НАРАДА АДБУДЗЕЦЦА Ў МАСКВЕ

Сёння можна даць некалькі падсумоўваючых сказаў аб кансультатыўнай сустрэчы кампартый у Будапешце.

Сустрэча ў Будапешце, як мы ўжо ўспаміналі, з'яўляецца вялікім здарэннем у міжнародным рабочым руху. На захадзе, перад сустрэчай, варажылі, што да ніякай нарады не дойдзе ў сувязі з паявіўшыміся ідэалагічнымі і палітычнымі разнагалоссямі ў рабочым руху. Аднак сустрэча кампартый адбылася і то з удзелам 67, а потым 66 камуністычных і рабочых партый. Трэба дадаць, што запрошаны ў Будапешт былі толькі тыя партыі, якія ў 1960 г. прыймалі ўдзел у нарадзе ў Маскве. А вядома, у міжчасе паўстала шмат новых камуністычных і рабочых партый. Неабходна сказаць, што ў пэўнай меры прычыніліся да склікання будапешцкай сустрэчы рэгіянальныя нарады партый у Карлавых Варах (Чэхаславакія) і кампартый Лацінскай Амерыкі.

Дыскусія ў часе сустрэчы ў Будапешце была іншая, чым 8 год назад у Маскве, усё ж перад 1960 г. разнагалосся ў рабочым руху не было. У Будапешце амаль кожная дэлегацыя не камуфлявала свайго становішча, а прадстаўляла свае погляды на найважнейшыя справы рабочага руху. Адсюль і вялікія супярэчлівасці між паасобнымі дэлегацыямі ў паасобных справах.

Раздзяляючыя розніцы. У рабочым руху зараз існуюць вельмі істотныя розніцы ў поглядах на праблему міру і вайны. Наша партыя, ПАРП, стаіць на такім становішчы, што зараз ніхто не можа сказаць будзе ці не будзе тэрмаядзерная вайна, гэта развяжа гісторыя, але справа ў тым, каб не дапусціць да тэрмаядзернай вайны, а адсюль і мірнае суіснаванне. Як вядома, некаторыя партыі займаюць супрацьлеглае становішча ў гэтай справе і за такое становішча наша партыя іх не асуджае, а асуджае за раскольніцкую дзейнасць.

Непрысутнасць — некаторых старэйшых кампартый — розная. Кітайская і албанская партыі зусім адказаліся прыняць запрашэнне. Некаторыя кампартыі не маглі прыняць удзелу з погляду на суадносіны сіл у некаторых раёнах міру. А, напрыклад, японская кампартыя (адна з мацнейшых) не прыняла ўдзелу ў сустрэчы, але супраць нарады КПЯ не выступае і лічыць будапешцкую сустрэчу як адну з дарог прымірэння.

Падрыхтовачны камітэт, пакліканы праз 66 партый, мае падрыхтаваць праекты пастаноў на будучую нараду, якая адбудзецца ў канцы г.г. у Маскве.

### НАРАДА Ў СОФІІ

У сталіцы Балгарыі Софіі адбылося пасяджэнне Палітычнага кансультатыўнага камітэта дзяржаў удзельніц Варшаўскага Дагавору. Камітэт падпісаў дэкларацыю аб сітуацыі ў свеце, створанай эскалацыяй вайны ў В'етнаме, і шэсць дзяржаў (апрача Румыніі) падпісала заяву ў справе нераспаўсюджвання тэрмаядзернай зброі. (АК)

## БССР

Беларускія газеты апублікавалі пастанову ЦК КП Беларусі — **«Аб 50-годдзі Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі».**

У вельмі абшырнай пастанове, м. ін., гаворыцца: «Перамогаsuccessful Кастрычніцкая рэвалюцыя, якая ўзрушыла ўвесь свет, поспехі Краіны Саветаў у развіцці эканомікі і культуры аказвалі рэвалюцыянізуючае ўздзеянне на працоўных Заходняй Беларусі(...) Рабочыя і працоўныя сяляне Заходняй Беларусі вялі гераічную барацьбу супраць эксплуатататараў за сваё вызваленне(...) Гэту барацьбу ўзначальвала Камуністычная партыя Заходняй Беларусі».

Гаворачы аб удзеле беларускага народа ў вайне з гітлераўскай Нямеччынай пастанова, м. ін., сцвярджае: «У радах доблеснай Савецкай Арміі мужна змагаліся больш як мільён сто тысяч беларусаў. У тыле нямецка-фашысцкіх акупантаў разгарэлася полымя ўсенароднай партызанскай вайны». (...) «Незлічоныя ахвяры панёс беларускі народ у гады Вялікай Айчыннай вайны. Загінуў кожны чацвёрты жыхар рэспублікі. У руінах ляжалі гарады і вёскі. Былі разбураны амаль усе прамысловыя прадпрыемствы, разграблены калгасы і саўгасы, навуковыя і культурныя каштоўнасці».

Далей у пастанове сцверджана: «За пасляваенныя гады ў БССР створана магутная цяжкая індустрыя, нанава пабудаваны і атрымалі далейшае развіццё лёгкая і харчовая прамысловасць, узніклі зусім новыя галіны прамысловасці — аўтамабіле- і трактарабудаванне, нафтаздабыча і нафтаперапрацоўка, вытворчасць мінеральных угнаенняў і сінтэтычных валокнаў, электронных машын, дакладных прыбораў і іншых відаў прадукцыі».

(...) На сцягу Савецкай Беларусі ззяюць два ордэны Леніна. Ордэнам Леніна ўзнагароджаны ўсе вобласці і сталіца Беларускай ССР — горад Мінск. Высокіх званняў Героя Сабецкага Саюза і Героя Сацыялістычнай Працы ўдастоены 652 чалавекі. Сотні тысяч працаўнікоў рэспублікі ўзнагароджаны ордэнамі і медалямі Савецкага Саюза».

У пастанове падкрэслена міжнародную ролю Беларусі: «З'яўляючыся членам і адным з заснавальнікаў Арганізацыі Аб'яднаных Нацый, Беларуская ССР выступае нястомным змагаром міру і міжнароднага супрацоўніцтва».

Цэнтральны Камітэт КП Беларусі пастанаўляе:

«Пяцідзесятую гадавіну Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі — вялікае свята беларускага народа, свята перамогі ленінскай нацыянальнай палітыкі, маналітнага адзінства і дружбы народаў СССР — правесці пад знакам далейшага павышэння палітычнай і працоўнай актыўнасці рабочых, калгаснікаў, інтэлігенцыі, усіх працоўных рэспублікі, мабілізацыі іх сіл і творчай энергіі на паспяховае ажыццяўленне рашэнняў XXIII з'езда КПСС».

Пастанова абавязвае ўсе партыйныя арганізацыі і інстанцыі абмеркаваць на спецыяльных сходах і пленумах пытанні, звязаныя з 50-годдзем Беларускай Дзяржавы. (С.Я.)

## ПОЛЬШЧА

### V З'ЕЗД

Ва ўсей краіне пачалася хваля прадукцыйных абавязацельстваў у гонар V з'езда партыі. Абавязацельствы датычаць увядзення новай тэхналогіі, дадатковай прадукцыі для краіны і на экспарт, хутчэйшага забеспячэння ў сыравіну, машыны і абсталяванне тых прадпрыемстваў, у якіх залежыць ад гэтага ўзровень прадукцыі. Шэраг абавязацельстваў датычыць пабудовы вясковых дарог, школаў, паляпшэння працы ў сельскай гаспадарцы.

### БУКВАР

У наступным навучальным годзе першакласнікі атрымаюць новы буквар да навучання польскай мовы. Заменіць ён ўстарэлы ўжо буквар, якім школы карысталіся праз увесь пасляваенны перыяд. Новы буквар уводзіць між іншым сучасныя словы, як радыё, тэлевізар, скутэр і г.д.

### ПІРАГІ

У Катавіцах працуе ад нядаўна прывезеная з Харкава машына да пячэння рускіх пірагоў. На працягу 8 гадзін робіць яна 75 тысяч пірагоў, якія наступна развозяцца па барах і сталовых.

### ХВАРОБЫ

Не глядзячы на намаганні лекараў назіраецца ў краіне з кожным годам узрост венерычных хвароб. Працэнтна штораз больш выпадкаў гэтых хвароб назіраецца сярод моладзі ва ўзросце 15—19 гадоў.

### НА ВЁСЦЫ

Ва ўсёй краіне дзейнічае зараз у вясковым асяроддзі 2285 кінатэатраў. Лік гледачоў у іх асягае 30 мільёнаў чалавек у год. Магчымасць аглядання кінафільмаў мае 40 працэнтаў жыхараў вёскі.

### КОСМАС

Савецкія вучоныя запрапанавалі сваім польскім калегам умяшчэнне на адным са штучных спадарожнікаў зямлі сваёй даследчыцкай апаратуры. Прапанова будзе зрэалізавана праўдападобна ў 1970 годзе.

### ПАЛЬМЫ

Цікавыя адкрыцці зрабілі апошнім часам польскія палеабіёлагі. У час прац, якія праводзіліся апошнім часам на польскім Падгалі, знойдзена фрагменты невядомых дагэтуль сартоў фінікавых фруктаў. Фрукты налічваюць каля 40 мільёнаў гадоў — у тым часе было на тэрыторыі Польшчы вельмі цёпла і раслі тут фінікавыя пальмы.

### МАТРОСЫ — ЗЛАЧЫНЦЫ

У 1966 годзе павятовы суд у Гданьску разгледзеў 11 спраў зняважання і абразы польскага народа матросамі Федэратыўнай Рэспублікі Германіі. У мінулым годзе суд меў чатыры такія справы. Дзевяць абвінавачаных атрымала ад шасці месяцаў да аднаго года турэмнага зняволення, а шэсць ад аднаго года да двух гадоў. Матросы гэтыя, прыехаўшыя на заходнегерманскіх караблях у польскія парты, пачыналі авантуры і бойкі з тамажнымі працаўнікамі і паслугай рэстаранаў. пагражалі, што яны «сюды яшчэ вернуцца», выкрыквалі, што замала палякаў згінула ў Асвенціме і г.д. (п)

## ВАЯВОДСТВА

### СПУЛДЗЕЛЬЧЫЯ КВАТЭРЫ

У Беластоцкім ваяводстве дзейнічае 38 кватэрапабудоўчых спулдзельняў. Іх маёмасць аблічваецца на 880 мільёнаў злотых. Дагэтуль у 179 спулдзельчых будынках атрымала памяшканні звыш 8 тыс. сем'яў. Калі б усе спулдзельчыя будынкі паставіць у адным месцы, атрымаўся б горад з насельніцтвам у 27.700 асоб.

### ДАЗ'ЕЗДАЎСКІ ЧЫН

Рабочыя калектывы, моладзь і вучні Беласточчыны стаюць на даз'ездаўскую вахту, каб грамадскімі чынамі і яшчэ больш выдатнай працай адзначыць V з'езд Польскай аб'яднанай рабочай партыі. Рабочыя рамонтна-чыгуначнага прадпрыемства ў Лапах абавязаліся дадаткова працаваць 16.400 гадзін, што складае суму каля мільёна злотых, а вартасць дадатковай прадукцыі ацэньваюць на звыш паўмільёна злотых. Абавязацельствы рабочых фабрыкі плюшу аблічваецца на звыш 400 тыс. зл. Вучні пачатковай школы № 28 у Беластоку абавязаліся пабудаваць прышкольную спартыўную пляцоўку, абсталяваць уласны агародчык, упарадкаваць прышкольную вуліцу і т.п. Іх абавязацельствы ацэньваюцца на 100 тыс. зл.

### СУПРАЦЬ АГРЭСІІ ЗША

Рабочыя Беластоцкага прадпрыемства гарадскога будаўніцтва ў час прафсаюзнага сходу прынялі рэзалюцыю, у якой асуджаюць агрэсію амерыканскай ваеншчыны ў В'етнаме.

### СУСТРЭЧА

У сувязі з міжнародным днём жанчын адбылася сустрэча І сакратара Ваяводскага камітэта ПАРП тав. А. Лашэвіча з прадстаўнікамі жаночых арганізацый Беластоцкага ваяводства. Прайшла яна ў сардэчнай атмасферы.

### ПЛЕНУМ

6-га сакавіка адбылося ў Беластоку пленарнае пасяджэнне ваяводскага праўлення Саюза сацыялістычнай моладзі. Яго ўдзельнікі абмяркоўвалі дзейнасць беластоцкай арганізацыі ЗМС за перыяд ад справаздачна-выбарчай канферэнцыі. Асаблівую ўвагу звярнулі яны на ўдзел членаў ЗМС у працы дзеля абароннасці краіны. Пленум заклікала моладзь на прадукцыйную даз'ездаўскую вахту. Першым на Беласточчыне быў калектыў фастаўскага баваўнянага камбіната, якога абавязацельствы сягаюць амаль 6-ці мільёнаў злотых.

### МАНЦЁРЫ З ГАРАДКА

У Ольштынскай паштовай акрузе славіцца манцёрская брыгада Яна Трахімчука з Гарадка. Яшчэ ў 1963 годзе гэтай брыгадзе прысвоена званне «Брыгады сацыялістычнай працы». У 1966 годзе заваявала яна першынство ў спаборніцтве тэлекамунікацыйных брыгад сацыялістычнай працы акругі. У гэтым годзе таксама спадзяюцца быць першымі. Брыгада Трахімчука шмат чаго зрабіла грамадскім чынам.

**Прэзідыум ГП БГКТ выказвае глыбокае спачуванне члену ГП БГКТ Васілю Дзуну з прычыны напаткаўшага яго гора — смерці брата Пятра.**




**NIEDZIELA, 17.III.**

9.35 Program dnia. 9.50 TV Kurs Rolniczy: ,,Pogłówne nawożenie zbóż ozimych''. 10.25 ,,Przypominamy, radzimy. 10.50 PKF. 11.00 ,,Zielona kareta'' — film fab. radz. 12.35 Dziennik. 12.45 ,,PROM'' — koncert symfoniczny. 13.30 ,,W starym kinie''. 14.30 ,,Uciekinier'' — film. 15.50 ,,Przemiany''. 15.30 Dla dzieci: L. Krzemieniecka — ,,O wiośnie i młynarzu Sylwestrze''. 16.20 ,,Piórkiem i węglem''. 16.45 Teatr Komedii Współczesnej: A. Mularczyk — ,,Próba generalna''. 17.45 ,,Ludzie i zdarzenia''. 18.00 ,,Spotkanie z pisarzem'' — Teodor Parnicki. 18.25 ,,Przedstawiamy'' (piosenki z Holandii). 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 ,,Trzej złodzieje'' — film fab. franc. 21.45 Niedziela Sportowa.

**PONIEDZIAŁEK, 18.III.**

15.40 Program dnia. 15.45 i 22.30 Politechnika TV II roku. 16.55 Dziennik. 17.00 Dla dzieci: ,,Kino Ptyś''. 17.20 Dla młodych widzów: ,,Zrób to sam''. 17.35 ,,Na zdrowie''. 17.55 ,,Wariacje'' — film bułg. 18.10 ,,Eureka''. 18.45 ,,Próby''. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 Teatr TV: R. Bratny — ,,Przeszło nie minęło''. ok. 21.15 ,,Kino Krótkich Filmów''. 21.45 ,,Odra i Dunaj'' — pr. ekonom. 22.10 Dziennik.

**WTOREK, 19.III.**

10.00 Dla szkół (kl. III) ,,Płynie rzeka''. 10.20 ,,Głosuję na miłość'' — film jug. 11.55 Dla szkół (kl. XI) Język polski — St. Grochowiak: ,,Ballada ciesielska''. 12.30 i 15.10 Przysposobienie Rolnicze: ,,Żywienie cieląt''. 13.05 Przerwa. 15.05 Program dnia. 15.45 i 22.20 Politechnika TV II roku. 16.55 Dziennik. 17.00 Dla młodych widzów: ,,Fizyka na piątkę''. 17.30 ,,Nie tylko dla pań''. 17.50 ,,Soczi'' — film radz. 18.05 TV Kurier Warszawski. 18.20 ,,Po szóstej''. 19.00 ,,Z kamerą przy siodle'' — film Tele-Aru. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 ,,Na tropie blagi'' — teleturniej. 20.35 ,,Głosuję na miłość'' — film fab. jug. 22.00 Dziennik.

**SRODA, 20.III.**

10.00 ,,Liga Czerwonowłosych'' — film (,,Sherlock Holmes''). 11.55 Dla szkół (kl. VIII) Fizyka: ,,Prądnica i silnik''. 15.40 Program dnia. 15.45 i 22.30 Politechnika TV I roku. 16.55 Dziennik. 17.00 Dla dzieci: ,,O jej, mysz!''. 17.30 PKF. 17.40 ,,Telekram''. 17.50 Wszechnica TV: ,,Malarstwo weneckie od Belliniego do Tiepola''. cz. I (,,Jak patrzeć na dzieło sztuki'') 18.20 Dwa filmy krótkometrażowe (radz.), 1) ,,Wiosenna etiuda'', 2) ,,Każdy sobie rzepkę skrobie''. 18.35 ,,Wspomnienia z nad morza'' — film bułg. 18.50 ,,Sylwetki X Muzy'' — Czesław Wołłejko''. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 ,,Liga Czerwonowłosych'' — film (,,Sherlock Holmes''). 20.55 ,,Światowid''. 21.25 ,,Pieśni walczącej Grecji'' — program poetycko - muzyczny. 22.10 Dziennik.

**CZWARTEK, 21.III.**

9.55 Dla szkół (kl. VIII) Historia ,,Tragiczny wrzesień''. 11.55 Dla szkół (kl. XI) Język polski: ,,Tuwim — Broniewski — Majakowski''. 12.30 Przerwa. 15.40 Program dnia. 15.40 i 23.00 Politechnika TV I roku. 16.55 Dziennik. 17.00 Dla dzieci: (i młodych widzów) ,,Ekran z bratkiem''. 18.05 ,,Nad jeziorem Wiktoria'' — film Tele-Aru (,,Z kamerą po świecie''). 18.20 ,,Jazz w Filharmonii''. 18.50 ,,Przeprowadzka'' — rep. tv. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 ,,Pod znakiem jakości''. 20.40 ,,Morderca ukrywa twarz'' — film CSRS. 22.10 ,,Prawdy Polaków'' — rep. film. 22.40 Dziennik.

**PIĄTEK, 22.III.**

9.55 Dla szkół (kl. lic.) Magazyn aktualności ,,Panorama''. 10.30 ,,O czymś innym'' — film fab. CSRS. 11.55 Dla szkół (kl. V) Wychowanie plastyczne: ,,Sztuka na codzień''. 12.25 Przerwa. 15.35 Program dnia. 15.40 i 23.20 Politechnika TV I roku. 16.50 Dziennik. 17.00 ,,Śpiewa Gordella'' — występ zespołu wokalnego — gruzińskie pieśni ludowe (Tbilisi). 17.30 Dla dzieci: ,,Miś z okienka''. 17.45 Klub Dobrych Gospodarzy. 18.15 TV Kurier Mazowiecki. 18.30 Magazyn Medyczny. 19.00 ,,Śpiewa Bolesław Mierzejewski''. 19.15 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 ,,Poligon''. 20.35 Teatr TV: Stendhal — ,,Czerwone i czarne''. 22.20 ,,Pejzaże''. 22.40 Dziennik.

**SOBOTA, 23.III.**

9.25 ,,Późne popołudnie'' — film fab. pol. 10.55 Dla szkół (kl. V) Geografia: ,,Na plantacji''. 11.25 Przerwa. 15.50 Program dnia. 15.55 TV Kurs Rolniczy: ,,Nawożenie poplonów''. 16.30 Program Tygodnia. 16.55 Dziennik. 17.00 Dla młodych widzów: ,,Kto na traktorze jedzie i orze'' — Turniej Szkół Zawodowych. 18.05 ,,Spotkania z przyrodą''. 18.30 ,,Tele-Echo''. 19.20 Dobranoc. 19.30 ,,Monitor''. 20.10 ,,Granica'' — film dok. TVP. 21.05 ,,Tele-Mocca'' — piosenki i tańce Bratysławy. 22.00 Dziennik. 22.15 Wiadomości Sportowe. 22.25 ,,Późne popołudnie'' — film fab. pol.




**Piątek, 15 marca**

8.05 Dziennik. 8.15 Dla przedszkolaków. 8.45 Film dla uczniów. 14.40 ,,Nowiny''. 14.50 Program dnia. 14.55 Język angielski dla przedszkolaków. 15.25 Historia fabryk. 15.55 Dla uczniów. 16.25 Komentarz międzynarodowy. 16.45 ,,Nic, co ludzkie, nie jest mi obce''. 17.15 ,,Nowiny''. 17.25 ,,Nagroda ,,Komsomolskiej Prawdy''. 17.55 ,,Nasi goście''. 18.30 ,,Sztafeta nowin''. 19.15 ,,Maszeńka''. Film. 20.30 Teatr miniatur TV. 21.15 ,,Tylko fakty''.

**Sobota, 16 marca**

6.55 Program dnia. 7.00 Gimnastyka. 7.45 Dla studentów. 9.30 Język angielski dla przedszkolaków. 10.00 ,,Niszczyciele''. Film. 11.35 ,,Idzie wiosna''. 12.00 Dokumentalny film sportowy. 12.20 Almanach filmowy. 12.40 Po ziemi ojczystej. 13.15 ,,Opowiadanie majora''. Film. 13.30 Teatr TV dla dzieci. 15.00 ,,Pieśń pozostaje z ludźmi''. 15.30 Międzynarodowe zawody pływackie. 16.00 Klub Filmowy. 17.00 ,,Płomyk''. 18.30 ,,Czas''. 19.00 A. Czechow ,,Wrogowie''. Spektakl TV. 20.00 Wieczór twórczy reżysera L. Werpachowskiego. 21.15 Dziennik. 21.30 Pogram na jutro. 21.35 Przegląd estradowy.

**Niedziela, 17 marca**

6.30 Dla uczniow szkół technicznych. 7.00 Gimnastyka. 7.15 ,,Budzik''. 7.45 Dziennik. 8.00 Kalendarz TV. 8.30 Almanach literacki. 9.30 ,,Album przyrody''. 10.00 ,,Opowiadania o bohaterstwie''. 10.30 Dla żołnierzy. 11.00 ,,Kiosk muzyczny''. 11.30 Czytają młodzi. 11.45 Film animowany dla dzieci. 12.00 ,,Prawoskrzydłowi''. 12.45 Nasz globus filmowy. 13.30 TV biblioteka encyklopedyczna. 14.00 Jazda pokazowa najlepszych łyżwiarzy figurowych świata. 17.00 ,,Siedem dni''. 17.30 ,,Dzień jutrzejszy naszej republiki''. 18.00 ,,Świat się śmieje''. Film. 19.30 ,,Reportaż z klasztoru''. 20.05 ,,Szkatułka muzyczna''. 20.15 ,,Białe i czarne''. 21.00 Tylko fakty.

## МЭЛЬХЕР ВАНЬКОВІЧ
# МОЎНЫЯ НЕДАРАЗУМЕННІ



Калі я як журналіст бадзяўся па беларускіх землях, я ахвотна заходзіў у суды. Тут і сустрэў самыя забаўныя моўныя недаразуменні.

Ужо на граніцы Палесся было такое мястэчка Заастровічы. Вырасла яно пасля першай вайны. У гэтае мястэчка раз у тыдзень прыязджаў міравы суддзя.

У тыповай г.зн. «лаянцы» за знявагу абвінаваўца ў скарзе, напісанай па-польску патайным дарадчыкам, гаварыў, што абвінавачаны сказаў на яго: «Ты псе!»

Абвінавачаны, выслухаўшы абвінавачання, звярнуўся да абаронцы з горкім дакорам:

— Аўхім, сабака ты, сабака — калі ж я на цябе пес сказаў?

✲

У Ваўкавыску трапіў я на судовую справу, калі адвакат, баронячы нейкую сялянку, скланяў: «повуд, повода, поводові».

Суддзя вымармытаў прыгавор, дарэчы шчаслівы для сялянкі, сабраў паперы і пакідаў залу. Але сялянка, якая не разумела афіцыйнай мовы, баючыся, што прыгавор быў вынесены не ў яе карысць, учапілася адваката:

— Паночку, аля ж мы не за повад судзіліс, аля за зямлю.

✲

У Ваўкавыску паліцыя склала акт абвінавачання аб укрыванні ў клуні камуністычнай літаратуры.

Паклікaны сведка сведчыў, што «шмат паліцыі прышло». Суддзя, які паходзіў з Малапольшчы, хацеў пакараць сведку за тое, што параўнаў паліцыю са шматаю.

✲

У Баранавічах суддзёю была жанчына — Івашкевіч. Разбіралася справа аб аліменты. Тэма шчакатлівая і сарамлівая.

Сведка — стары селянін, у лыкавых лапцях, падстрыжаны «пад міску», саромеўся даваць паказанні. Калі Івашкевіч пачала падганяць, рашуча сказаў, што «я ўсё раўно нічога казаць ня буду».

Івашкевіч, у якой відаць быў камплекс аўтарытэтнасці (тады не сустракалася жанчын на суддзёўскіх пасадах), раззласцілася і сказала:

— За адказ сведчання пагражае штраф. Чаму адказваецеся сведчыць?

Селянін, скеміўшы, што гэта не жарты, стаў тлумачыцца па-польску:

— Бо Вельможны Сонд у кабецым стане есташ.

✲

Беларусы, якія служылі ў паліцыі, лічылі, што мова рапартаў павінна быць узнёслая. Нічога дзіўнага — польскай мовай яны не карысталіся дома, была яна ім, да нейкай меры, мовай літургічнай.

У Беластоку паказвалі мне рапарт паліцыянта, які праходзячы каля публічнага саду пачуў «Odgłosy stosunku pozamałżeńskiego». Іншы зноў, імкнучыся выставіць прыхільнае пасведчанне настаўніцы, рапартаваў, што «pod względem niemoralności zadowolniła całą wieś».

Літургічныя дзівы, замест звычайнай мовы, вычваралі і самавучкі — патайныя дарадчыкі.

Адзін з іх у скарзе за зняваіу пісаў, што «pozwana, odwróciła się tyłem do powódki i zadarszy spódnicę parsknęła z rury wydechowej».

✲

Трэба было толькі выйсці з устаноў, умяшацца ў беларускі люд, каб пачуць мову сочную, мяккую і адначасова вобразную.

У Навагрудку на рынку былі яўрэйскія крамы. У кірмашныя дні быў там ажыўлены рух.

Уласнік адной з гэтых крамаў расказваў мне, як прыкмеціў сярод купы кліентаў рослага дзяцюка, які спадцішка цягнуў з бочкі струк чырвонага турэцкага перцу. Вядома, гэта страшэнна востры перац. Ну дык крамар прытаіўся і чакае эфекту.

— Відзен я — расказваў мне — цо он вконсіл тэго пепша і цо слёзы ему з глаз коцон сен. Так я мувен: «Міхей, ты ж сын такего богатэго ойца, як тобе не ўстыдно красць».

А Міхей, задыхаючыся:

— Шлёмка, не лезь у вочы, бо як плюну, то згарыш.

Стараста ў Лідзе расказваў мне, што выйшаўшы раніцай са сваёй канцылярыі на вуліцу, убачыў бабульку з ружанцам, якая на каленях абыходзіла будынак старостава.

— Паночку, — тлумачыла, — мне ж штраф далі, так я яго прышла адмаліць, бо ніяк не маю з чаго заплаціць.

## АМАТАРЫ

# ХТО І ЯК ПАМАГАЕ?

**Сёня даем трэці і апошні адрэзак з з цыкла «Аматары», які гаворыць аб аматарскім руху сярод нацыянальных меншасцей Беласточчыны. Матэрыялы ўзяты з даклада на сесіі Нацыянальнай камісіі Ваяводскага камітэта партыі ў Беластоку.**

Паводле дадзеных усіх нацыянальных таварыстваў, якія дзейнічаюць на Беласточчыне, аматарскія гурткі не карыстаюць з інструкцыйна-метадычнай дапамогі адпаведных устаноў, альбо карыстаюць мінімальна.

Галоўнае праўленне Беларускага таварыства сцвярджае, што парад такіх з боку аддзела культуры і дамоў культуры, амаль няма, няма спецыялістаў інструктараў. Галоўнае праўленне іх таксама не мае.

Паводле дадзеных Ваяводскага дома культуры ў Беластоку, праводзіцца ў ваяводстве індывідуальны і груповы інструктаж кіраўнікам аматарскіх гурткоў. Індывідуальны інструктаж — гэта рэпертуарныя парады і выезды інструктараў ПДК і ВДК у гурткі. Груповы інструктаж — гэта семінары, арганізаваныя Ваяводскім домам культуры.

Гурткі аматараў у нацыянальных асяроддзях чакаюць на рэжысёрскую дапамогу. Ды яна немагчымая, бо ў ВДК ёсць толькі адзін інструктар для тэатральнага майстэрства на ўсё ваяводства. Ён, штопраўда, раз або два разы ездзіць у некаторыя гурткі, напрыклад, быў у Крывой, Рыбалах, Пасынках, Паўлах, Райску, Пініках, Кляшчэлях, Гарадку, Старым Ляўкове, і г.д.

ВДК вазіў некаторыя калектывы з нацыянальных асяроддзяў ці то ў прафесіянальны тэатр, ці на ўласныя спектаклі ў новыя мясцовасці.

Калектывы ў нацыянальных асяроддзях не маюць патрэбных касцюмаў. Але касцюмы да тэатральных выступленняў мае Ваяводскі дом культуры і пазычае іх вясковым гурткам за малой аплатай, або ўвогуле бясплатна. Гэтак жа выглядае справа і з танцавальнымі касцюмамі. ВДК мае некалькі камплектаў касцюмаў рускіх, украінскіх і польскіх рэгіянальных. Адносна музычных інструментаў: найчасцей члены розных гурткоў карыстаюцца інструментамі, якія з'яўляюцца ўласнасцю культурных устаноў і атрыманы яны ад аддзелаў культуры. Нацыянальныя таварыствы па-рознаму вырашаюць гэтую справу. Напрыклад, аддзелы Беларускага таварыства маюць 153 камплекты народных касцюмаў, 4 акардэоны, адно піяніна, 3 камплекты музычных інструментаў. Штогод ГП БГКТ прызначае на дапаўненне касцюмаў і інструментаў 20 тысяч злотых.

З увагі на жыццяздольнасць аматарскіх мастацкіх калектываў і аматарскай мастацкай творчасці ў нацыянальных асяроддзях існуе зацікаўленне дзяржаўных і партыйных улад гэтай праблемай. У паасобных асяроддзях яно markрознае. У літоўцаў раз на ўспомненую тэму гаварылася на экзекутыве Павятовага камітэта партыі. У украінцаў падставовыя партыйныя арганізацыі і грамадскія камітэты не надта займаліся праблемай, але больш цікавіўся ёю Павятовы камітэт у Голдапе, прадстаўнікі якога прымалі ўдзел у пасяджэннях праўлення аддзела Украінскага таварыства ў Банях Мазурскіх. У беларускім асяроддзі зацікаўленне партыйных устаноў аматарскім рухам у справаздачным перыядзе было наогул вялікае. У Бельскім павеце справы гэтыя некалькі разоў былі тэмай на сакратарыяце Павятовага камітэта партыі, у камісіях і Прэзідыуме Павятовай рады нарадовай, а таксама на пасяджэнні Грамадскага камітэта партыі ў Рыбалах.

У Гайнаўцы, а таксама ў Беластоку — павеце і горадзе — гаварылася на гэтую ж тэму на экзекутыве Павятовага камітэта партыі. Развіццём аматарскага руху цікавіўся сакратарыят Павятовага камітэта партыі і Прэзідыум Павятовай рады ў Сямяцічах і Саколцы.

З увагі на патрэбы сярод насельніцтва, як і зацікаўленне партыйных дзяржаўных улад аматарскім рухам у нацыянальных асяроддзях не можа быць мовы, каб тармазіць развіццё гэтага карыснага грамадскага руху.

Наогул усе нацыянальныя таварыствы сцвярджаюць згодна, што 1967 год прынёс далейшы рост развіцця аматарскага руху.

Трэба аднак сказаць, што не ўсе формы аматарскага руху ў нацыянальных асяроддзях развіваюцца аднолькава дынамічна. Усе згодны, што пэўныя формы аджываюцца. Існуе патрэба эстрадных гурткоў, малых інструментальна-вакальных форм, гурткоў з роду кабарэ. Гэта адносіцца да ўсіх нацыянальных асяроддзяў, аб якіх тут гаворым.

У беларусаў падабаюцца вялікія хоры. Аджываюць век драмгурткі ў сваёй традыцыйнай форме. Радыё, тэлевізія вырабляюць смак. Аматарскі рух у нацыянальных асяроддзях хоча стацца больш сучасным. Зараз неабходным для развіцця грамадскага мастацкага руху з'яўляецца: падрыхтоўка інструктараў з педагагічным падыходам, адпаведнага рэпертуару і развіццё індывідуальнага і груповага інструктажу.




(Працяг са стар. 1)

дзілі неаднойчы ў склад іх праўленняў бо дзейнасць гэтых таварystваў вельмі блізкая для іх, яна вельмі добра імі ўспрыймалася. Але вельмі часта хацелася пачуць роднае беларускае слова, песню, гутарку аб беларускай культуры, літаратуры, гісторыі. Тым больш, што сярод успомненых беларусаў Гданьска шмат выпускнікоў беларускіх ліцэяў у Бельску і Гайнаўцы. І вось, так нарадзілася думка арганізаваць беларускі гурток у Гданьску. Аб яго арганізацыі многа гаварылася паміж сабою. На гэтую тэму часта гаварылася ў хаце Ірыны Мельнікавай, куды вельмі ахвотна дзяўчаты і хлопцы заходзяць. А гэта таму, што ў Ірыны вельмі ветлівыя і гасцінныя бацькі, ды сама яна таленавітая дзяўчына, добра спявае і іграе на акардэоне. І вось гэтая група беларускай моладзі накіравала свайго прадстаўніка ў Беласток у ГП БГКТ і рэдакцыю «Нівы» з просьбаю, каб яны памаглі арганізаваць у Гданьску гурток Беларускага грамадска-культурнага таварыства. Просьба ахвотна была прынята, і праз нейкі час адбыўся там арганізацыйны сход (аб ім мы ўжо інфармавалі), на якім было выбрана сяміасабовае праўленне гуртка. У склад праўлення ўвайшлі: Мікола Сівіцкі — старшыня, Оля Сапешка — сакратар, Аня Краська — скарбнік і члены: Ірына Мельнікава, Янка Гарустовіч, Валодзя Паўлоўскі і Янка Баравік. Гурток гэты налічвае зараз 65 асоб. Найстарэйшымі па ўзросту членамі гуртка з'яўляюцца: Марыя Безуглая, (73 гады), Наталля Мельнікава (68 год) і Надзя Лукашэвіч (59 год).



Харавая група.



**Аб слаўных шляхах Савецкай Арміі даклад чытае Мікола Сівіцкі.**

* ✲ *

Першым мерапрыемствам, якое арганізаваў гурток БГКТ, была вечарына прысвечаная 50-годдзю Савецкай Арміі. З нагоды гэтай гадавіны даклад чытаў старшыня гуртка Мікола Сівіцкі.

Моцна і з вялікім хваляваннем рыхтаваў гурток мастацкую частку на гэтую ўрачыстасць. Складалася яна з выступленняў харавой групы, выступленняў паасобных салістаў, а таксама дуэтаў, трыо і квартэтаў. На асобнае падкрэсленне заслугоўвае дуэт студэнтак Олі Зданоўскай і Зіны Сахарчук, якія спявалі, між іншым, беларускія песні: «Зорка» і «Алёна». Ірына Мельнікава была і акампаніятарам і членам харавой групы. Вершы аб Савецкай арміі чытаў Янка Гарустовіч. Канферансье быў Аляксандр Юзэфовіч (сам ён з Астраўка з Сакольшчыны).

Мастацкая частка была цёпла ўспрынята прысутнымі. Вельмі мілая і прыемная атмасфера была і перад урачыстасцю і пасля мастацкай часткі. Такія вечарыны яднаюць, умацоўваюць дружбу, даюць вялікую карысць.

Тэкст і фота: **М. Хмялеўскі**



**Выступае Зіна Сахарчук.**

ГУРАНСКАЯ ГРАМАДА

# Ураджай і жывёлагадоўля

Гуранская грамада адносіцца да бяднейшых грамад Сакольшчыны. Тут няма высокаўраджайнай зямлі і сенакосаў, тут амаль не сеюць пшаніцы і цукровых буракоў. Тут яшчэ мала сустракаецца ў вёсках мураваных дамоў, хлявоў і іншых гаспадарчых будынкаў. Тут яшчэ існуе цераспалосіца.

Сельскагаспадарчая вытворчасць у гуранскай грамадзе на даволі нізкім узроўні. Аб гэтым можа сведчыць хаця б той прыклад, што на сто га зямельных угоддзяў у грамадзе налічваецца толькі 28 штук быдла.

Ураджаі на палях таксама невысокія. Праўда, што зямля цяпер родзіць лепш, як калісьці, таму што ўсё больш і больш выкарыстоўваюцца мінеральныя ўгнаенні, але ў параўнанні да іншых грамад нават гэтага ж самага Сакольскага павета сяляне тут замала вапнуюць зямлю, замала даюць зямлі гэтага «цудоўнага парашку». Цяпер завалены мінеральнымі ўтнаеннямі ГС-аўскія склады. Многа гаворыцца аб тым, каб ужо зімою забяспечыліся сяляне ў «навозы». Але неяк гэта не даходзіць да многіх гаспадароў, не даходзіць гэта нават і да вясковых важакоў, якімі з'яўляюцца солтысы і радныя. Да іх адносяцца: Янка Пракапчук, Эдмунд Бэргель і Яўгень Малеша.



Улады прэзідыума ГРН на чале са старшынёй (справа) Міколам Куклікам.

### НОВЫЯ БУДЫНКІ

Пачатак 1968 года для працаўнікоў прэзідыума ГРН у Гуранах быў знамянальны тым, што пачалі яны працаваць у новапабудаваным памяшканні. 14 студзеня адбылося ўрачыстае адкрыццё сядзібы ГРН, якая і прыгожая і прыстасаваная да патрэб мясцовай улады. Гэта выгадны «бюровец», у якім ёсць таксама і вялікая зала для нарад, сесій і розных сходаў. Памяшканне ГРН — гэта ўжо трэці будынак у Гуранах, які служыць добра для ўсіх жыхараў. Першай будовай была школа, другой — вясковая крама. Будзе пабудавана ў будучыні і злеўня малака, і агранамоўка, і пункт аховы здароўя, і пошта.

### ПАРТЫЙНЫЯ ЎЛАДЫ

Нядаўна ў Гуранах пакліканы да жыцця грамадскі камітэт ПАРП. Першым сакратаром з'яўляецца Яўгень Часновіч, сакратаром прапаганды — кіраўнік школы Янка Аляксеюк і сакратаром да спраў сельскай гаспадаркі — Мікола Куклік, старшыня ГРН. Грамадскі партыйны камітэт плануе ў хуткім часе разбудзіць да актыўнай дзейнасці ўсе існуючыя тут арганізацыі, у тым ліку і БГКТ.

Тэкст і фота М. Х.



Новапабудаваная сядзіба ГРН.

# АБ ЛІКВІДАЦЫІ ЦЕРАСПАЛОСІЦЫ І АБМЕНЕ ГРУНТАЎ

**У трэцім нумары зборніка законаў за гэты год апублікавана 10 важных законаў прынятых на апошняй сесіі Сейма. Сярод іх тры законы адносяцца да сельскай гаспадаркі. У чарговых нумарах «Нівы» будзем друкаваць асноўныя пастановы гэтых законаў.**

У апошнія гады нашы ўлады звяртаюць асабліва вялікую ўвагу на павышэнне сельскай гаспадаркі. Сур'ёзнай перашкодай у рацыянальным выкарыстанні зямлі з'яўляецца цераспалосіца. З мэтай стварэння лепшых умоў гаспадарання закон ад 24 студзеня 1968 г. устанаўляе ліквідацыю цераспалосіцы і замену грунтаў.

Ліквідацыя цераспалосіцы праводзіцца на прапанову прынамсі паловы гаспадароў, або па загаду ўлад. Пастанову аб ліквідацыі цераспалосіцы прымае прэзідыум Павятовай рады нарадовай. Скарга на гэту пастанову да вышэйшых улад не прыслугоўвае.

Орган прэзідыума Павятовай рады нарадовай, які праводзіць ліквідацыю цераспалосіцы, складае план, які падаюць да ведама сялян, якія на працягу 14 дзён могуць унесці пісьмовую засцярогу. Засцярогі разглядае пакліканая да гэтага камісія. Пасля гэтага Прэзідыум ПРН выдае пастанову аб зацверджанні праекта ліквідацыі цераспалосіцы. Гэта пастанова канчатковая, і толькі ў выключных выпадках Прэзідыум Ваяводскай рады нарадовай можа яе адмяніць, калі парушае яна істотныя правілы закона, або патрабуюць гэтага асабліва важныя гаспадарчыя адносіны.

Кожны гаспадар атрымоўвае ў замен за свае грунты — іншыя, такой самай вартасці. Ліквідацыя цераспалосіцы не адносіцца да грунтаў пад забудаваннямі, калі на гэта не згаджаюцца ўласнікі гэтых будынкаў.

Пры ліквідацыі цераспалосіцы могуць быць коштам усіх удзельнікаў выдзелены грунты на грамадскія патрэбы, напрыклад, на пабудову школы, пад вуліцу і дарогі. Грунты гэтыя пераходзяць на ўласнасць дзяржавы.

Абмен грунтаў праводзіцца па загаду ўлад на карысць адзінак грамадскай гаспадаркі. Практычна беручы з абмену будуць найчасцей карыстацца ПГР. Дзяржава можа замяніць грунты, якія знаходзяцца побач з зямлёю ПГР-у, на сялянскую гаспадарку, якую атрымала, напрыклад, за вызначэнне пенсіі няздольнаму да працы. У такіх выпадках заменены могуць быць таксама будынкі.

Абмен грунтаў праводзяць Прэзідыумы Павятовых рад нарадовых такім спосабам, якім праводзіцца ліквідацыя цераспалосіцы.

Пастанова аб зацверджанні плана ліквідацыі цераспалосіцы або абмене грунту не мае ўплыву на ўласнасць. Г. зн., што той, хто не быў уласнікам грунту, не стаецца ўласнікам новапрыдзеленай яму гаспадаркі.

Абмен грунтаў, а таксама ліквідацыя цераспалосіцы, калі адбываецца па загаду ўлад, праводзяцца на кошт дзяржавы.

## У бібліятэках

**У публічных бібліятэках Бельскага павета налічваецца: 14 радыёпрыёмнікаў, 5 тэлевізараў, 8 адаптараў, 1 магнетафон, 28 жутнікаў і каля 500 пшэзрочы.**

**Толькі частка з іх з'яўляецца ўласнасцю бібліятэк. Апошнія закуплены за грамадскія грошы рознымі арганізацыямі. (ак)**

Гайнаўскія гарцэры малодшых класаў маюць ужо свой хор. 25 хлопцаў і дзяўчынак з розных школ Гайнаўкі аб'ядналіся пад кіраўніцтвам Юзэфа Залескі. Два месяцы старанна вучыліся спяваць і рыхтаваліся да свайго першага выступлення. І вось надышла хвіліна праверкі — вялікі гарцэрскі карнавальны баль. Малыя спевакі не толькі добра выступілі, але і атрымалі выбраную ў конкурсе для іх назву «Гарцэрскія віяланчэлькі». На гэтым жа балю харысты ўпершыню атрымалі свае спецыяльныя гарцэрскія хусты — чырвоныя з залатым беражком.

Новы хор — гэта супольнае дзіця некалькіх гайнаўскіх устаноў. Арганізаваўся ён па ініцыятыве гуфца ЗГП і ТПД. Кіраўніка дала павятовая парадня аматарскага руху, а памяшканнем на заняткі стаў завадскі дом культуры «Гурнік».

Такое супрацоўніцтва розных устаноў у Гайнаўцы ўвайшло ўжо ў традыцыю. Вось ужо некалькі год амаль усе дзіцячыя мерапрыемствы арганізуюць разам гарцэрства і Таварыства сяброў дзяцей: акцыі нялагернага лета, кулікі на санках, дзіцячыя балі.

Вось і ўспомнены баль быў таксама супольны. Нават вялі баль разам з друхнай Эвай грамадскія дзеячы ТПД Станіслава Зяйко, капітан Невядомскі, Стэфан Кэнска і настаўніцы гайнаўскіх школ.

У апошнія гады асабліва актыўна працуе ў Гайнаўцы Таварыства сяброў дзяцей. Апрача гэтых супольных мерапрыемстваў грамадскія дзеячы ТПД кожны ў сваёй мясцовасці і ў сваёй галіне стараюцца памагаць дзецям. Асабліва актыўна працуюць Здзіслаў Глушэк з Гайнаўкі, Мар'я Гарустовіч — настаўніца з Міклашоў, Лёнгін Рагацін настаўнік з Іванак, Станіслава Зяйко і Анна Трусевіч з Гайнаўкі. Цяпер ТПД разам з аддзелам асветы вядзе новую акцыю — класныя заняткі з шасцігадовымі малышамі, падрыхтоўку іх да школы. Заняткі вядуць настаўнікі па два разы ў тыдзень, а ТПД забяспечвае матэрыяльны бок справы.




Хутка вясна, і тады зноў усе зацікаўленыя арганізацыі і ўстановы накіруюць свае супольныя намаганні на стварэнне дзецям добрага летняга адпачынку.

Я. Чэрнякевіч






### ДЗЕЦІ ПАЎСТАНЦАЎ

У правінцыі Валенсія з вуснаў у вусны перадаецца расказ аб дзецях паўстанцаў, напісаны крывёй і гераізмам іспанскага сялянства.

Хто ж яны, гэтыя дзеці паўстанцаў, і чаму іх так назвалі?

Аднаму з іх было дванаццаць, а другому толькі дзесяць год. Яны — вясковыя дзеці з-пад Рагены.

Бацька, нягледзячы на свае 55 год, захаваў яшчэ юнацкую адвагу. «Іншыя стогнуць, а я лічу за лепшае змагацца», — гаварыў ён сваёй жонцы, якая, хоць і шмат маладзейшая за яго, не ўступала яму ў мужнасці. Як сапраўдная жыхарка Валенсіі, яна адказвала мужу: «Ты выконваеш толькі свой абавязак», а ў яе вачах загараўся агеньчык.

Стары селянін быў сувязістам у паўстанцкім атрадзе, які гераічна змагаўся за свабоду іспанскага народа. Нястомны і разважны, ён з'яўляўся адным з найлепшых памочнікаў у паўстанцкім руху ва ўсходняй Іспаніі. Аднойчы, вярнуўшыся са свайго таямнічага паходу, ён сказаў жонцы:

— Даведаліся аба мне. Каб не трапіць у лапы франкістаў*, трэба ўцякаць у горы, да паўстанцаў.

— Калі так, дык уцякай. Я...

Яна сказала гэта нават не гледзячы на яго і не вымаючы рук з дзяжы, у якой мясіла хлеб. Бачачы, што яна хоча яшчэ нешта сказаць, муж падышоў да яе і моцна абняў:

— Але... як дасі сабе раду з дзецьмі? — сказаў напаўголаса, паказваючы на хлопцаў, якія прыбеглі, каб прывітацца з бацькам.

Яна адвярнулася і сказала:

— Шкада часу. Ідзі, зараз жа ідзі!

Выйшаў. А яна зачыніла за ім дзверы.

* * *

Аднак помста жандармаў ішла далей. На другі дзень, нехта папярэдзіў жанчыну аб небяспецы:

— Вам трэба ўцячы.

Яна сказала:

— Добра, — і пачала рыхтавацца ў дарогу.

Збірала ў вялікую хустку найбольш патрэбныя рэчы.

— Ідзём ужо, мама! — падганяў старэйшы сын.

— Ідзём... ідзём...

Вымаючы рэчы з камоды жанчына звярнулася да сыноў:

— Можа прыдзецца нам растацца. І калі не будзе ў вас маці, вы самі будзеце даваць сабе раду. Нічога ад чужых не бярыце і міласці не прасіце, хоць бы нават з голаду паміраць прыйшлося. Прымайце дапамогу толькі ад нашых людзей, старайцеся аддзякаваць ім якой-небудзь паслугай... І хоць вы яшчэ малыя, шукайце працы, зарабляйце на хлеб. Да ўсіх будзьце добрымі і ветлівымі, але не дазваляйце ўніжаць сябе. Не бойцеся адзіноцтва, не бойцеся нічога. А калі толькі будзеце мець магчымасць — вучыцеся, бо невуцтва і страх з'яўляюцца найбольшым ворагам бедных. У цяжкіх хвілінах успамінайце вашага мужнага бацьку...

І калі яна іх абнімала і цалавала, губы яе дрыжалі.

— Будзьце такімі, як ён, сынкі, такімі, як ён!

Збіраліся ўжо да адыходу, як раптам з трэскам адчыніліся дзверы і ў хату ўварвалася чатырох жандармаў.

— Дзе твой муж?

— Не ведаю!

Адзін з іх ударыў жанчыну кулаком у твар. У яе вачах загарэўся агонь нянавісці. Скокам драпежнага звера кінулася яна на жандарма.

На яе абрушыліся ўдары прыкладаў. Нягледзячы на гэта, жанчына абаранялася, б'ючы кожнага жандарма, які пападаўся ёй пад руку. Дзеці, стараючыся абараняць маці, хапалі жандармаў за ногі і крычалі:

— Нягоднікі!.. Бандыты!.. Падлюгі!..

Адштурхнутыя, апынуліся ў куце хаты. Маці змагалася далей. Удар прыкладам у грудзі закончыў няроўную барацьбу. Яна ўпала. Жандармы стаялі нерухома над яе целам. У цішы поўдня чуваць было толькі прыглушаны плач дзяцей і ўпартае стракатанне konікаў,

# АБ ВСІнж. НЕ ЎСЁ

(Працяг са стар. 1)

Навуковы абмен вядзем з многімі палітэхнікамі і ВСІнж. у Польшчы, а таксама маем навязаныя загранічныя кантакты і пачалі абмен студэнтамі.

**Ніва: ВСІнж., калі можна так сказаць, стаюцца «модныя» і Міністэрства асветы і вышэйшай адукацыі моцна стараецца аб іх развіццё ў параўнанні да палітэхнік. Як найпрасцей гэта растлумачыць?**

Адказ: У працы між абсальвентамі палітэхнік і ВСІнж. няма ніякай розніцы. На ВСІнж. мы рыхтуем інжынера, звяртаючы большую ўвагу (як на палітэхніцы) на практычную падрыхтоўку, а ў сувязі з гэтым абсальвент ВСІнж. хутчэй асвоіцца ў прадукцыйнай працы. Гэта з'яўляецца прычынай, што мы ў дыдактычным працэсе базуем на вельмі добрым лабараторным і тэхнічным абсталяванні.

**Ніва: Чуецца наогул многа аб мадэрнізацыі дыдактычнага працэсу ў вышэйшых школах. Што можна сказаць аб беластоцкай ВСІнж.?**

Адказ: Можна адказаць наступнымі прыкладамі, хаця яны не адлюстроўваюць усяго, што мы робім у гэтым напрамку: зараз заканчваецца мантаж лабараторыі замежных моваў з 16-цю кабінамі: нядаўна паўстала «працоўня» нумарычных падлікаў з лічыльнай машынай **«Одра 1013»**; ствараем таксама ізатопава-дэфектаскопную лабараторыю; лабараторыю аўдыявізуальных тэхнік і іншыя.

**Ніва: Просім некалькі слоў аб перспектыве ВСІнж.**

Адказ: Зараз у нас вельмі цесна і гэта вялікая цяжкасць. Але ў хуткім часе пачнецца пабудова камплекта аб'ектаў ВСІнж. злакалізаваных пры вул. Шаша Звежынецка і Свяркова. Кошт гэтай інвестыцыі складзе больш 250 мільёнаў зл, а трохэтаповая пабудова закончыцца ў 1980 годзе і будзе разлічана на 5,5 тысячы студэнтаў (разам з працуючымі). Калі зараз маем 105 штатных навуковых работнікаў, дык у 1980 годзе будзе іх 500, што абазначае, што ў год будзем прымаць каля 30—40 новых навуковых работнікаў. Зараз стараемся стварыць усе ўмовы, каб нашыя маладыя навуковыя работнікі маглі здабываць навуковыя ступені, што звязана з іх авансам і патрэбамі нашай установы.

**Ніва: Што можна было б раіць будучым кандыдатам у Вашу ВСІнж.?**

Адказ: Перш за ўсё павінны быць гэта маладыя людзі, якія маюць большым пасрэдныя здольнасці да дакладных прадметаў (матэматыкі, фізікі) і, зразумела, павінны мець закончаную сярэднюю школу.

Ніва: Шчыра дзякуем за размову. Ад сябе інфармуем зацікаўленых, што пры ВСІнж. ёсць дом студэнта на 300 чалавек, а ў будучым годзе закончыцца пабудова другога дома студэнта і што пры школе ёсць вайсковая студыя, дзе студэнт праходзіць ваенную вучобу.

Размаўляў **Аляксей Карпюк**

---

хваліўшых лета ў блізкіх агародах.

— Гатова, — сказаў урэшце адзін з бандытаў, штурхаючы трупа канцом бота.

Жандармы сілаю вывалаклі хлопцаў з хаты і павялі з сабою.

Нехта з вёскі паведаміў аб гэтым партызанскаму атраду, які знаходзіўся паблізу.

Жандармы вялі сваіх палонных у Рагену, вялі двух безабаронных хлопцаў. Яны не ведалі, што ў невялікай адлегласці, хаваючыся за кустамі і прашмыгваючы равамі ішло за імі двух чалавек. Гэта былі паўстанцы.

Жыхары Рагены, убачыўшы хлопцаў, якіх жандармы вялі пад штыкамі, пачалі ісці за імі натоўпам. Жанчыны пачалі плакаць. Вочы матак не маглі спакойна глядзець на галовы хлопцаў, на іх сумныя тварыкі. Грамада жанчын прыблізілася да дзяцей, быццам хочучы вырваць іх з-пад штыкоў. Знячацку, невядома адкуль пасыпаўся град каменняў. Жандармы занепакоіліся.

Прыклады вінтовак ударылі ў натоўп, зрабілася замяшанне, і пакуль жандармы зразумелі ў чым справа, хлопцаў ужо не было. Яны ішлі хутка дарогай, якая вяла ў горы Буньёль. Яны ішлі з паўстанцамі.

**Х. Ізкарай**

(Працяг у наступным нумары)

Уласціва, што варта вёска без акцёраў? Хай сабе будзе сельскагаспадарчы гурток, хай людзі маюць многа грошай — усё гэта добра, але славу вёсцы прыносяць толькі акцёры. Ясна, вясковым акцёрам далёка да сапраўднага акцёрскага ўзроўню — гэта звычайныя вясковыя Міколкі ды Пецькі, якія выступаюць у нядзелю на сцэне пажарніцкай рэмізы.

У Дзяніcках няма акцёраў. Быў час, што і ў Дзяніcках былі свае мастакі. Ад гэтай пары мінула аднак ужо восем гадоў. Ёсць у Дзяніcках сельскагаспадарчы гурток, ёсць у людзей грошы. А акцёраў няма. Знаўцы цвердзяць, што іх ніколі ўжо не будзе.

Зіма ў Дзяніcках лянівая. Летам поўныя рукі работы, але зімою няма работы зусім. Народ тут не цягнецца па дзяржаўных заработках, як у іншых вёсках, не пляце кошыкаў, не тчэ саламяных матаў. Няма пашто. Людзі і так маюць грошы. За агуркі. Дзяніcкі ад паўстагоддзя слаўяцца на ўсю ваколіцу сваімі агуркамі.

Ляціць тады ў Дзяніcках жыццё ціха і лянівa. Сяляне, пазакутваўшыся ў мяккія кажухі, тырчаць гурбою ў прасторнай краме, ды чакаюць на цёплае піва. Піва няма якраз у краме. Дрэнна.

Чаму аднак у Дзяніcках няма акцёраў? Вядома, акцёрамі могуць быць людзі маладыя. А ў Дзяніcках няма маладых людзей. Усе маладыя людзі ў Бельску або ў іншых гарадах. Займаюцца вучобаю, некаторыя працуюць на дзяржаўных работах. Вёска старэе ды спакайнее.

У Бельску аднак у сваім часе мы чулі, што ў Дзяніcках узнік гурток ЗМВ і што гурток гэты актыўны. Якім тады чынам узнік гурток маладзёжнай арганізацыі там, дзе няма моладзі? Проста. Гурток узнік у час летніх канікул, калі моладзь з'ехалася з усяе краіны, каб адпачыць у бацькоўскай хаце. Гурток сапраўды быў нават актыўны. Узяўся за рамонт святліцы. Не дакончыў. Хлопцы ізноў раз'ехаліся па ўсёй краіне, і актыўнасць дзяніскаўскага гуртка звялася да нуля.

Будынак святліцы стаіць незалежна ад таго, якія гурткі і як дзейнічаюць у вёсцы. Будынак




таксама мае сваю доўгую гісторыю. Пабудавана яго сіламі ўсяе вёскі яшчэ ў 1949 годзе. Менавіта як святліцу. Потым аднак аказалася, што ў вёсцы няма школы. І ў будынку святліцы пасяліліся школьнікі. Дрэнна было. Па звычцы сходзіліся сюды ўсе, як у святліцу. Моладзь патрабавала дазволу на забавы. У школе, вядома, нельга рабіць забаў. У вёсцы тлумачылі, што гэта будынак святліцы. Узнікалі канфлікты паміж школаю і вясковай моладдзю. Урэшце пабудавана яшчэ адзін будыначак для школы, і ў 1960 годзе святліца сталася толькі святліцаю.

У святліцы ніхто не перашкаджае рабіць забаў. Аднымі гульнямі, як кажуць, жыць не будзеш. Тым больш, што не вельмі ёсць каму і гуляць зараз у Дзяніcках. Злітаваўся над дзяніскаўскімі гаспадарамі мясцовы ГС і заснаваў тут «Клуб гаспадара». Клуб праіснаваў 6 гадоў — да 1965 года. Потым пачаліся клопаты, кіраўнікі клубаў пачалі звальняцца, у клубным кіёску аказалася нястача. Клуб зліквідавана. Партыйная арганізацыя на чале з кіраўніком школы Уладзімірам Антонюкам імкнулася, каб зрабіць у памяшканні святліцы клуб «Руху». Гаварылі, дзе трэба, і пісалі заявы. Адказалі, што не зробяць. Прычына: няма працаўніка, і асяроддзе быццам бы вельмі цяжкае. Шчасце, што свет найшоў тэлевізію. Ратуе яна гонар апусцелага будынка. На пытанне, што робіцца ў святліцы, дзяніскаўцы адказваюць — тэлевізар. Тэлевізар у Дзяніcках купілі адны з першых склаўшыся на гэта па 50 злотых ад гаспадара. Акно на свет сталася адкрытым. Дзяніскаўскія сяляне вечарам сядзяць перад сярэбраным экранам, а ўдзень снуюцца па вуліцы ды заглядаюць у мясцовую краму. І так цячэ жыццё.

**Ул. Паўлючук**




## РЭВАЛЮЦЫЙНЫ РУХ У БЕЛАРУСІ Ў 1905—1907 ГАДАХ

У гаспадарцы Беларусі ў пачатку XX стагоддзя назіраецца перарастанне капіталізму ў яго вышэйшую ступень — імперыялізм. Змяншаецца лік малых і слабых прадпрыемстваў за кошт развіцця вялікіх фабрык, у якіх працавала па 1000 і болей рабочых. Частка іх належала да заходніх капіталістаў і ўсерасійскіх суполак. Штораз большы ўплыў на развіццё гаспадаркі мае банкавы капітал.

У сельскай гаспадарцы шпарка развіваліся тыя памешчыцкія маёнткі і гаспадаркі заможных сялян, у якіх працавалі наёмныя батракі і ўся вытворчасць была падпарадкавана запатрабаванням тагачаснага рынку. Занепадаюць тыя маёнткі, што абапіраліся на адробку і вялі натуральную гаспадарку. Раздрабняюцца і слабеюць малыя і сярэднія сялянскія гаспадаркі. Сялянская бедната пакідала свае родныя вёскі, падавалася ў прамысловыя раёны Расіі, эміґравала ў Канаду, Аргенціну, Бразілію, але і там яе спатыкаў цяжкі лёс.

У 1900—1903 гадах усю Расійскую імперыю ахапіў гаспадарчы крызіс. У яго выніку шэраг прадпрыемстваў было закрыта. Павялічылася колькасць беспрацоўных у гарадах і яшчэ больш пагоршылася палажэнне незаможнага і малазаможнага сялянства ў вёсках. Узрастала і пашыралася нездавальненне працоўных. Яно хутка стала пераходзіць у стыхійны рух, накіраваны супраць капіталістаў і царскага самадзяржаўя. Павялічылася колькасць забастовак, дэманстрацый. Асабліва магутнымі і грознымі сталі першамайскія дэманстрацыі.

Руская Сацыял-Дэмакратычная рабочая партыя ўносіла ў гэты рух арганізаванасць, гуртавала яго і накіроўвала на свядомую рэвалюцыйную барацьбу за знішчэнне самадзяржаўя і ўстанаўленне дэмакратычнага ладу. Гэтыя ідэі пашырала нелегальная рэвалюцыйная газета «Іскра». Яна выходзіла пад кіраўніцтвам У. І. Леніна заграніцай і адтуль патаемна прывозілася і распаўсюджвалася сярод рабочых па ўсёй Расійскай дзяржаве.

9 студзеня 1905 года ў Пецярбургу па загаду цара войска расстраляла мірнае шэсце рабочых. Расстрэл ускалыхнуў усю краіну. У адказ на яго ўсюды, таксама і ў Беларусі, пракацілася хваля стачак пратэсту. На чале рэвалюцыйнай барацьбы былі рабочыя заводаў і фабрык, да іх далучыліся батракі, сяляне, рамеснікі, дробная буржуазія, інтэлігенцыя, вучні. Працоўныя дамагаліся 8-гадзіннага дня працы, знішчэння самадзяржаўя, устанаўлення дэмакратычнай рэспублікі.

У кастрычніку па закліку РСДРП пачалася ўсерасійская стачка. Ва ўсёй краіне гаспадарчае жыццё было загамавана.

У Беларусі спачатку забаставалі мінскія чыгуначнікі. Да іх адразу далучыліся рабочыя фабрык, заводаў, друкарань, рамеснікі, служачыя, вучні. Па ініцыятыве РСДРП рабочыя стваралі баявыя дружыны. 18 кастрычніка працоўныя Мінска сабраліся на прывакзальнай плошчы. Яны дамагаліся звальнення з турмы палітычных вязняў. Мінскі губернатар Курлоў загадаў паліцыі і войску расстраляць дэманстрацыю. Ад куль загінула 80 чалавек, каля 300 чалавек было ранена. Такую ж крывавую расправу ўчынілі казакі ў Віцебску. Там загінула 18 чалавек. Гэта выклікала яшчэ большае абурэнне працоўных Беларусі. У наступныя дні пахавальныя працэсіі ператварыліся ў шматтысячныя палітычныя дэманстрацыі. Сярод удзельнікаў дэманстрацый члены РСДРП распаўсюджвалі лістоўкі, якія заклікалі да ўзмацнення і пашырэння барацьбы.

Рабочыя ў многіх гарадах Беларусі выбіралі сярод сябе стачачныя камітэты, якія былі правобразам Савецкай улады. Яны загадвалі фабрыкантам плаціць рабочым за дні забастовак, кіравалі чыгункай, забяспечвалі грамадскі лад, здымалі з пасадаў ненавісных царскіх чыноўнікаў.

*(Заканчэнне тэмы за тыдзень)*

## Лекцыя прыроды

Таварыства прыяцеляў Белавежы паведамляе: пабываў у нас у канцы лютага др **Яўгеній Новак** — навуковы супрацоўнік Вышэйшай сельскагаспадарчай школы ў Ольштыне. Выступіў ён з лекцыяй на тэму: «Уражанні прыродазнаўцы са Швейцарыі, Італіі і Францыі». Лекцыю сваю паўтараў некалькі разоў, у Белавежы 2 разы і ў Гайнаўцы 2 разы. У арганізацыі памагаў аддзел асветы і культуры Прэзідыума ПРН у Гайнаўцы. Дакладчык аказаўся чалавекам надзвычай мілым, цікавая дыскусія была жывой усюды. (вл)

## MAGAZYN POLSKI АБ БЕЛАРУСКІМ РУХУ

У сакавіцкім нумары гэтага вельмі папулярнага месячніка, які выходзіць у тыражы 150 тысяч экземпляраў, апублікавана падборку інфармацыйных матэрыялаў з «Нівы» наконт беларускага насельніцтва на Беласточчыне, яго нацыянальнага грамадскага, культурнага, навуковага і літаратурнага жыцця. Гэтым матэрыялам прысвечана цэлую старонку часопіса, змяшчаючы ў тытульным месцы рэпрадукцыю загалоўка «Нівы».

Прыемна адзначыць, што гэта публікацыя збеглася з дванаццатай гадавінай існавання нашай «Нівы», якая — як вядома — пачала рэгулярна выходзіць ад 4 сакавіка 1956 г.

Гэта публікацыя з'яўляецца другой у гэтым зімовым сезоне публікацыяй пра нас у вялікім польскім выданні, што сведчыць аб росце зацікаўлення польскага друку жыццём беларусаў у Польшчы. (С.Я.)

 

## БЕЛАРУСКАЯ ССР У ФОТААБ'ЕКТЫВЕ



Жыллёвыя дамы рабочых саўгаса «Волма», Мінскай вобласці.

## ДЛЯ ГАСПАДЫНЬ

### Алюмініева пасуда

Пасуда з алюмініевых сплаваў шырока распаўсюджана ў быце. Лабараторныя даследванні паказваюць, што пасуда з алюмінію адпавядае гігіенічным патрабаванням. Важна толькі правільна ёю карыстацца.

Алюміній лёгка акісляецца кіслародам і пакрываецца вельмі тонкай (0,00001 міліметра), але вельмі моцнай плёнкай вокісу. Гэтая плёнка засцерагае метал ад карозіі і далейшага акіслення. Таму алюміній стойкі да ўздзеяння вады і звычайных харчовых прадуктаў. Пад дзеяннем жа кіслот плёнка вокісу разбураецца, метал параўнальна лёгка падвяргаецца карозіі і можа часткова перайсці ў харчовыя прадукты. Хоць алюміній і не валодае таксічнымі ўласцівасцямі, гэта можа выклікаць лёгкае раздражненне слізістай абалонкі страўніка і кішэчніка.

У алюмініевай пасудзіне не рэкамендуецца нават на працягу двух-трох дзён захоўваць ежу, якая мае значную кіслотнасць: квашаную капусту, саленні, марынады, капусту, баршчы, тамат-пюрэ, кісялі, джэмы. Інакш гэтыя прадукты могуць страціць смак, пах і колер. Крэм, напрыклад, збіты ў алюмініевай каструлі, набывае шараватае адценне і металічны прысмак.

Такім чынам, раім выкарыстоўваць алюмініевую пасуду толькі для прыгатавання, а не для захоўвання ежы.

Мыюць алюмініевую пасуду гарачай вадой з мылам або гарчыцай. Для чысткі і мыцця алюмініевай пасуды не трэба карыстацца содай, нашатырным спіртам і да т.п. Яны разбураюць ахоўную вокісную плёнку і выклікаюць карозію металу.

## Ці ведаеш, што...

...самай высокай жанчынай свету была немка Марыяна Ведэ. Калі яна памёрла ў Берліне ва ўзросце 17 гадоў, яе рост складаў 255 сантыметраў. Самы высокі мужчына памёр у 1940 годзе ва ўзросце 21 года. Ён дасягнуў 270 сантыметраў.

...самае цяжкое дзіця нарадзілася ў 1879 годзе ў Новай Шатландыі. Яно важыла пасля нараджэння 11 кілаграмаў.

# „ГІСТАРЫЧНЫ КВАРТАЛЬНІК“ аб Б. ТАРАШКЕВІЧУ

Першы нумар «Гістарычнага квартальніка» за 1968 год змяшчае два артыкулы прысвечаныя беларускай праблематыцы: **Аляксандры Бергман — «Браніслаў Тарашкевіч і левае крыло Бельведара»** і рэцэнзійны артыкул **Леаніда Жытковіча — «Сяляне Беларусі і Літвы ў XVIII стагоддзі».** Напамінаем, што «Гістарычны квартальнік» выдаецца Інстытутам гісторыі Польскай Акадэміі навук.

Напэўна вельмі зацікавіць праца А. Бергман аб Браніславу Тарашкевічу правадыру беларускага нацыянальна-вызваленчага руху.

Успамянуты артыкул асвятляе шырэй не толькі асобу Б. Тарашкевіча, але паказвае на менш або ўвогуле невядомыя праблемы звязаныя з беларускай незалежнасцю і палітыкай у гэтай галіне польскага міжваеннага ўрада. Артыкул фактычна паказвае толькі 6 год жыцця Тарашкевіча, год найбольш супярэчлівых у яго дзейнасці. На пачатку артыкула аўтар у асноўным звяртае ўвагу на пытанне ўзаемных сувязей Тарашкевіча з прадстаўнікамі польскай пратрэсіўнай інтэлігенцыі, якая групавалася вакол журнала **«Пшымежэ»** (1920 год), а таксама больш шырокіх кругоў прымыкаючых к лагеру Пілсудскага. Пры гэтай аказіі аўтар ясна паказвае погляды «маладога» каменданта Пілсудскага на справу беларускай меншасці. У артыкуле паказаны погляды Тарашкевіча, як былога актыўнага дзеяча беларускага пытання ў граніцах маладой польскай дзяржавы. Тарашкевіч быў адным з нямногіх беларускіх дзеячаў, якія даўжэй чым іншыя лічылі на аўтаномію ў рамках польскай дзяржавы. Але ўсе спробы набліжэння, усе канкрэтныя прапановы былі адкінуты ўрадуючымі кругамі. Як прыклад аўтар падае верасень 1923 г., калі падаў у адстаўку ўрад **Вітаса** і паўстала магчымасць паклікання ўрада на чале са **Станіславам Тугутам.** Тарашкевіч, які вёў перагаворы з Тугутам заявіў, што Беларускі Клуб (у Сейме) падтрымае яго ўрад, калі той: паменшыць выдаткі на армію, спыніць тэрор супраць мясцоваму насельніцтву, адтэрмінуе закон аб пасяленні, створыць пасаду віцэміністра або міністра беларускіх спраў, будзе дапускаць беларусаў да дзяржаўнай службы, пакліча беларусаў ваяводамі паўночна-ўсходніх ваяводстваў і інш. Міма, што ніводзін з пастулатаў не быў рэалізаваны, Тарашкевіч быў далёкі ад таго, каб парваць сувязі, якія яго спалучалі з польскай інтэлігенцыяй.

Аднак першапачатковая вера Тарашкевіча ў магчымасць станоўчай развязкі асноўных нацыянальных і сацыяльных патрабаванняў беларусаў у буржуазна-санацыйнай Польшчы памалу расплывалася. Тарашкевіч памалу перайшоў з пазіцыі **агульнанацыянальнага лагера — у агульнапольскі рэвалюцыйны рух. Поўны разрыў з бельведарчыкамі і беларускім агульнанацыянальным лагерам заключаецца ўступленнем Тарашкевіча ў рады КПП.**

У канцы артыкула, вельмі коратка, паказаны сувязі Б. Тарашкевіча з прадстаўнікамі польскай інтэлігенцыі ў апошнія гады, а таксама паказана прывязанасць яго да польскай культуры, аб чым м. інш. сведчыць пераклад на беларускую мову **«Пана Тадэуша»** у адзіночнай камеры турмы ў Вронках і Гродне.

Артыкул надта цікавы і жыва напісаны, паказвае на небагатую першакрынічную літаратуру, якім, на маю думку, павінны пацікавіцца настаўнікі гісторыі і беларускай мовы.

А. К.

Цікавыя здарэнні

## СУТЫЧКА З ПІТОНАМ

Альфрэд Мтымхулу вяртаўся з Дурбана (Паўднёва-Афрыканская Рэспубліка) у вёску. Прайшоўшы значную адлегласць пад спякотным сонцам, ён вырашыў крыху адпачыць у ценю дрэва. Раптам ён пачуў ззаду сябе шорах. У той жа момант яго цела абвіла штосьці слізкае, і перад вачыма спалоханага падарожніка паўстала страшэнная галава вялізнага пітона. Мтымхулу паспрабаваў схапіць змяю за горла, але яна выкруцілася. Завязалася барацьба. Кольцы пітона ўсё мацней сціскалі цела чалавека. І ўсё ж Мтымхулу ўдалося схапіць свайго ворага за горла, і ён адчуў, што жалезныя ціскі слабеюць. Пітон быў задушаны. Яго даўжыня была роўная 3,5 метра.

Як правіла, пітоны такіх памераў рэдка нападаюць на чалавека. Іх здабычай звычайна з'яўляюцца дробная жывёла і птушкі. Відаць, пітон, які напаў на Мтымхулу, быў вельмі галодны.

## Водны марафон

Такі від спорту нарадзіўся нядаўна. Аўтарамі гэтага віду спорту з'яўляюцца французскія плыўцы-спартсмены: Рожэ Бенуа, Боб Крэцен, Жан-Луі Гійсмар і Жыльбер Марэль. Восенню мінулага года адбылі яны падарожжа на рацэ Роне аж да ўпадзення яе ў Жэнеўскае возера, праплываючы 170 кіламетраў праз парогі і вадапады. Усё падарожжа заняло ім сем дзён. Кожны з плыўцоў пхаў перад сабой завязаны ў непрамакаючы мяшок няхітры багаж. Спартсмены добра экіпіраваліся. Былі яны адзеты ў непрамакаючыя касцюмы з каўчука, якія не толькі абаранялі іх перад холадам, але і змякчалі ўдары аб камні.

(а-ка)



З жыцця нацыянальных меншасцяў

## Аўтарскі вечар ГЕОРГІЯ САРГОНІНА

Як паведамляе «Трыбуна люду», у Доме савецкай культуры ў Варшаве 26 лютага г.г. быў наладжаны аўтарскі вечар Георгія Саргоніна, таленавітага рускага паэта, заслужанага перакладчыка польскай паэзіі на рускую мову. Георгій Саргонін жыве ў Польшчы.

Творчасці паэта і яго жыццю кароткую сардэчную прамову прысвяціў пасол СССР Аверкій Арыстаў.




Сумна бялее ноччу гарыстая выспа. Яшчэ крыху — і Карцаў будзе сярод прыяцеляў. Выспа — база флоту саюзнікаў.

Рыфы засталіся збоку. Усё бліжэй бераг. Недзе тут павінен быць уваход у бухту.

Так і ёсць. Карцаў праплывае мыс — і адкрываецца бухта. Шум вінтоў застаўляе яго насцярожыцца. З-за выспы з'яўляецца карабель. За ім устаюць узгоркі ўспененай вады. Гэта рвуцца скінутыя з кармы глыбінныя бомбы.

Выбухі, выбухі. Адзін за другім. Кожны адбіваецца ў грудзях Карцава. Яму будзе канец, калі карабель зменіць курс і бомбы лягуць бліжэй.

Старажавік скрываецца за мысам. Хутчэй, хутчэй у бухту: карабель можа вярнуцца.

Неўзабаве Карцаў каля мола. Там, дзе мола канчаецца, — вузкі ўваход у бухту, яе вароты. Цяпер бухта закрыта — злучаны плывучыя боны, якія падтрымліваюць стальную сетку.

У супрацьлодачнай сеткі вочкі дастаткова вялікі, каб праз іх мог праплысці чалавек. У гэту і галавы не праціснеш. І сетка, трэба меркаваць, цягнецца да самага дна. Мабыць паміж сцяной мола і бонам ёсць шчыліна? Разлік правільны. Дастаўшыся ў бухту, ён плыве ўздоўж мола, выбіраючы месца, дзе можна выбрацца з вады.

Раптам у глыбіні бухты запальваецца пражэктар, б'е кулямётная чарга. Тут жа ўключаюцца пражэктары ў іншых месцах. Відаць караблі. Пражэктары шараць па вадзе. Кулямёты, якія цяпер б'юць і з берагу і з караблей, таксама цэляць уніз. Б'юць па вадзе.

Плысці далей нельга, спыняцца на месцы таксама: адна з кулямётных чэргаў трапіла ў бетон над галавою Карцава.

Між тым перапалох у бухце расце.

Трэба хутчэй выбрацца з вады! З гэтай думкай Карцаў рухаецца ўздоўж мола. Спераду нейкі цень. Мо, трап?

Карцаў падплывае туды і раптам трапляе ў паласу святла. Голас зверху загадвае яму не рухацца. Падскоквае кацер. Карцава ўцягваюць на борт.

— Эй, гляньце сюды! — па-англійску нясецца з мола. — Вось ён, другі. Хапай яго, хлопцы!

У кацер укідаюць чалавека ў чорным гумовым касцюме і перапончатых ластах на нагах. Следам кідаюць нейкі прадмет. Карцаў пазнае кіслародны дыхальны апарат. Яму ясна: чалавек у гумовым касцюме — падводны разведчык або дыверсант.

Кацер нясецца да лінкора, які вырысоўваецца сярод бухты, швартуецца ля яго трапа. Гаспадар кіслароднага рэспіратара ўстае і паднімаецца на борт лінкора.

Чарга за Карцавым.

Да яго па-англійску звяртаецца матрос. Карцаў разумее загад, але ён дрэнна разумее мову і па-руску тлумачыць, што ўстаць і ісці не можа — вельмі слабы.

Тады матрос пераходзіць на нямецкую.

— Я не магу, — па-нямецку адказвае Карцаў, — я доўга плыў і зусім знясілены.

Матрос раскрывае рот, каб адказаць, але ў глыбіні бухты бліскае полымя, і ўсё навокал трасецца ад аглушальнага выбуху.

— Док! — гаротна крычыць матрос. — Яны ўзарвалі вялікі док!

Ён ва ўпор глядзіць на Карцава. У яго вачах лютасць, шаленства. Ствол аўтамата паварочваецца. — Вось-вось стукне чарга. І Карцаву здаецца: ён мае рацыю, гэты здаравенны марак, які цяпер ледзь не плача.

— Адставіць, Джаб! — даносіцца з лінкора.

Матрос быццам прачнуўся.

— Давай яго сюды! — загадвае той самы голас.

— Так, сэр. — Матрос узнімае галаву. — Але палонны не можа рухацца.

Зверху падаюць трос. Джаб абвязвае ім Карцава — і вось ужо ён у паветры. Над палубай яго апускаюць, цягнуць па палубе, упіхаюць у дзверы.

Ён жмурыцца ад яркага святла.

— Адкрый вочы і адказвай! — патрабуе матрос.

Карцаў прамёрз. Яго трасе.

— Холадна! — раве Джаб. — Пачакай, хутка горача стане!

Карцаў дрыжыць усё мацней.

Нехта накідвае яму на плечы коўдру, усоўвае ў пальцы шклянку. Глыток, яшчэ глыток — і адчувае, як па страўніку расцякаецца цеплыня. Адубелыя мускулы расслабляюцца. Дыхаць лягчэй.

— Хто вы такі? — пытае лейтэнант.

Карцаў тлумачыць.

— Ну-ну! — лейтэнант моршчыцца. — Адстаўце свае казкі для іншых.

— Я гавару праўду.

— Вы мініравалі карабель? Які? Дзе размешчаны зарад? Раю не марудзіць: вадалазы павінны паспець абясшкодзіць іх, толькі ў гэтым выпадку вы можаце разлічваць на ласку.

Карцаў паўтарае тлумачэнне. Яго вядуць у салон, дзе іншы афіцэр, капітан-лейтэнант, дапытвае чалавека ў гумовым касцюме.

— Ага, — крычыць ён, — вось і другі з'явіўся! Давайце яго сюды.

Карцава садзяць побач з палонным.

Зноў ён паведамляе, як апынуўся каля мола.

— Вы дзейнічалі разам? — пытае капітан-лейтэнант, не звяртаючы ўвагі на тое, што сказаў Карцаў. — Так ці не? Адказвайце. Яшчэ адзін выбух — і абодвух павесяць на рэі.

Некалькі хвілін Абст — гэта быў ён! — глядзіць на Карцава, затым кажа:

— Не, я не ведаю яго.



 

